Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# Сялянская Праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 18. Вільня, Нядзеля, 9-га лістапада 1924 г. Год I.

**У гэтым нумары 6 страніц.**

## Творчае змаганьне.

Ня гледзячы на ўсю нікчэмнасьць тых уступак, якія нашы паслы ў Сойме вырвалі ў польскага ўраду ў пастаці „языковых законаў“, народ наш ждаў, што з 1 кастрычніка гэтага году справа беларускае школы скранецца з мёртвага пункту.

Пустыя лятуценьні! „Языковыя“ законы так мусіць і названы затым, што яны істнуюць „на языку“, але не на дзеле....

Мы ўжо пазнаёмілі нашых чытачоў з знамянітым „віленскім экспозэ“ міністра асьветы-Міклашэвскага, які заявіў, што 1924—25 школьны год не пабачыць ніводнае ўрадавае беларускае школы, бо гэта мае быць толькі „падгатаваўчы“ год.

Калі нават і так, дык мо‘ хто падумае, што ўрад падгатаўляе прынамся да наступнага году кадры вучыцялёў для беларускіх школ, што арганізуе нейкія курсы, ці вучыцельскую сэмінарыю для іх?

Ды нічога падобнага! Урад ня толькі сам не „падгатаўляе“ вучыцялёў для беларускіх школ, але дагэтуль не дае дазволу на адкрыцьце гэткіх курсаў Цантральнай Беларускай Школьнай Радзе, і ў будучым 1925—26 школьным годзе ізноў ня будзе ўрадавае беларускае школы, бо... няма „выкваліфікаваных“ вучыцялёў!

Лоўкая „работа“,—праўда?

Ды гэта ня ўсё. З парляманцкіх кругоў нас паведамляюць, што, па загаду міністэрства асьветы, паны куратары школьных акругоў разаслалі школьным інспэктарам цыркуляр, у якім гаворыцца, каб у сёлетнім школьным годзе не адчынялі *ніякіх новых школ, а істнуючыя, калі ў іх мала вучняў, ліквідавалі*—дзеля „ашчаднасьці“....

Цыркуляр гэты меціме вялікую вагу, асабліва ў Заходняй Беларусі, у адносінах да прадбачанага ў „языковых“ законах пераробляньня істнуючых у нас польскіх урадавых школ на беларускія ці хаця-бы двуязычныя—польска-беларускія. Бо-ж, калі польскія школы ў нас пустуюць, і народ згаджаецца пасылаць у іх дзяцей толькі тады, калі ў іх завядуць навуку пабеларуску,—дык школьныя інспэктары, як паслухмяныя ўрадоўцы, хутчэй гэныя школы пазачыняюць зусім (зашто ім пан міністар асьветы, ведама, толькі падзякуе!), чым пераробяць іх на двуязычныя ці на беларускія. Да таго-ж, як відаць з цэлага раду друкаваных у нас карэспандэнцыяў, паліцыя тэрорызуе сялян і гмінную ўладу, нават, за ўкладаньне прыгавораў аб беларускіх школах, пагражаючы карамі за самае *жаданьне* таго, што дазволена законам....

І народ усё больш пачынае лічыць *толькі на свае сілы.* Беларускае насяленьне адчыняе свае прыватныя беларускія школы, на свой кошт утрымлівае вучыцялёў, выпісывае кніжкі для навукі—ведама, беларускія.

Але разам з тым у беларускай масе ўзмацоўваецца перакананьне, што Польская дзяржава, якая бярэ ў беларусаў і маемасьць іх і жыцьцё (рэкрутаў) на роўных правох з польскім насяленьнем, забывае аб гэтай „роўнасьці“ ў той мамэнт, як трэба нашаму народу даць тое, што яму забясьпечана і польскімі-ж законамі, і міжнародавымі міравымі трактатамі....

І гэта адносіцца ня толькі да школьнае справы. Польская ўлада, стануўшы на грунце зьліцьця беларускае тэрыторыі з этнаграфічна польскімі землямі, праводзіць палітыку крайняга цэнтралізму, які робіць жыцьцё Заходняе Беларусі прост *несьцярпімым*. Сцьвярджаюць гэта ня толькі беларусы, ня толькі тутэйшыя палякі—„краёўцы“: аб гэтым сьведчаць прадстаўнікі самае-ж польскае ўлады! Нават нова-назначаны наваградзкі генарал-ваявода Янушайтіс заявіў супрацоўніку „Kur. Wil.“, што аднэй з галоўных прычын, якія вытвараюць на „Крэсах“ сучаснае „фатальнае“ і „трывожнае“ палажэньне, зьяўляецца „нячуваная супярэчнасьць з жыцьцём“ польскіх законаў, асабліва-ж інструкцыяў да іх, якія *„абсалютна ня лічацца з тамтэйшымі патрэбамі і жыцьцёвымі варункамі“*. А ці-ж не найвялікшай анómаліяй, ці не найбольш ненармальным зьявішчам у Заходняй Беларусі трэба лічыць *польскую школу для беларускіх дзяцей*?!

Беларусы павінны змагацца з гэтымі ненармальнасьцямі ня толькі дарогай пратэстаў і крытыкі з соймавае трыбуны. Нашае змаганьне павінна быць перш за ўсё *творчым*: тое, чаго, ня гледзячы на нашае правы, польская дзяржава нам не дае, мы павінны самі тварыць для сябе.

На гэту дарогу наш народ ужо і ўвайшоў.

## Як даюць беларусам родную школу.

У Палескім ваяводзтве ад пачатку істнаваньня польскае ўлады аж да апошняга часу нельга было й думаць аб адчыненьні беларускае школы. Пан Куратар Вольбэк усімі магчымымі спосабамі стараўся перш-на-перш задушыць тое, што нейк вырывалася з-пад яго вока,як гэта было з Нясьвіжскаю гімназіяй; а там, дзе толькі пачыналі думаць аб адчыненьні беларускае школы,— там чыста паліцэйскімі спосабамі „ліквідаваў“ гэта. У прыпадках, калі ўжо ніяк нельга было, захоўваючы хоць прымітыўную прызвайтасьць, адмовіць у адчыненьні школы, дык найлягчэйшым выхадам было зрабіць кандыдатаў на вучыцялеў, або кіраўніка „ворагам паньствовасьці польскай“. Апошні мэтад і быў пушчаны ў ход цяпер, калі не ўдалося інакш перашкодзіць адчыненьню беларускае гімназіі ў Клецку.

Не „варожы“ дагэтуль да Польшчы концэсіянэр Шнаркевіч неўспадзеўкі зрабіўся „варожым“ і на падставе гэтага канцэсіі даць нельга... У адносінах-жа да кіраўніка гэтае гімназіі, п. Бараноўскага, якога, відаць, нельга было зробіць„неблаганадзежным“, надта скрыта падвялі другую „міну“—запрапанавалі яму ўрадавую пасаду,—бязумоўна, на нейкі час, бо каб толькі гэткім шляхам у гэты мамэнт зьліквідаваць беларускую гімназію!

„Апеку“ такую п. Вольбэка мы, беларусы, адчувалі надта добра, але думалі, што ад 1 кастрычніка ўсё-ж павінна быць нейкая палёгка.

Яшчэ ўлетку пачалі сяляне прыгатаўляцца да свае роднае школы на ўсім Палесьсі, а найбольш чакаў гэтага Пружанскі павет.

Пачалі зьбірацца сяляне на сходы ды гутарыць, як цяпер пабудаваць сваю школу. Інструкцыя Школьнае Рады надта памагла вёсцы, бо ня трэба было шукаць пісароў, каб улажылі заяву.

Першай вёскай, якая настанавіла прасіць у Пружанскага Школьнага Інспэктара свае роднае беларускае школы, была в. Шэні, тэй жа гміны. Прыгавор гэтае вёскі запісалі нават у кнігу гмінных прыгавораў ды думалі, што ўсё ўжо будзе добра. Але адміністрацыя Пружанскага павету ў асобах п. старасты Ноэля і школьнага інспэктара п. Аляхоўскага зрабіла такі гармідар, што стэрарызавала ўвесь павет:

Перш-на-перш быў **звольнены войт** Шэнёўскае гміны, нейкі Станкевіч, а на яго мейсца назначаны вядомы злодзей Шышка (быў асуджаны на 3 м. турмы). **Каманданта паліцыі**, у прысутнасьці якога Шэнёўская гміна зрабіла такі прыгавор, **перавялі стуль**, а **сэкрэтару грозяць рэдукцыяй.** Ад гэтага й пачалося па ўсім павеце.

Стараста супольна з інспэктарам Аляхоўскім разьяжджаюць па гмінах ды **грозяць войтам, што за пасьведчаньне прыгавораў на беларускія школы іх чакае цяжкая кара.**

Да 25 кастрычніка прыгаворы на адчыненьне беларускае школы напісалі наступныя вёскі: Шэні, Стараволя, Дабучын, Арабнікі, Кацёлкі, Ліпава, Аранчыцы, Бакуны, Руднікі, Якавічы, Чахец і інш.

**Школьны інспэктар і ягоная канцэлярыя заяваў ня прыймаюць**, а ўпрадстаўніка в. Бакунаў, пагразіўшы турмою, інспэктар вырваў з рук заяву аб адчыненьні бел. школы ды кінуў пад ногі. Цяпер сяляне пасылаюць свае прыгаворы школьнаму інспэктару праз пошту, сьведчучы іх солтысам.

У Стараволі п. Аляхоўскі, прыехаўшы з паліцыяй, шукаў усё ініцыятараў. Зроблена было некалькі вобыскаў, але нават інструкцыі Школьнай Рады, як адчыняць школы, не знайшлі. Запужаўшы турмою ды штрафамі, загадалі вучыцелю паляку бываць на ўсіх сходах і неадкладна паведамляць уладу, калі ўзьнімецца справа аб беларускай школе.

Так праводзяцца на Палесьсі, а, асабліва у Пружаншчыне, „языковыя“ ўставы! Мо‘б нашыя паслы зацікавіліся гэтымі справамі, ды далі раду, што рабіць.

**Пружанец.**

## Увага нашым каапэратарам.

Агульны зьезд паўнамоцнікаў каапэратываў, якія належаць да Віленскага Саюзу, адбудзецца **29 гэтага лістапада.**

Толькі тры тыдні маем часу дзеля таго, каб згаварыцца, каго слаць у Вільню ад нашых вясковых каапэратываў. Дый ня толькі **каго**, а і **сколькі** дэлегатаў паслаць на гэты зьезд.

Мы зварачаем увагу нашых вяскоўцаў іменна на **лічбу дэлегатаў**. І вось дзеля чаго.

Кожын каапэратыў пасылае гэтулькі дэлегатаў, сколькі на яго выпадае ў залежнасьці ад лічбы сяброў. У паведамленьнях Управы Саюзу заўсёды паказана, сколькі паўнамоцнікаў даны каапэратыў **мае права** паслаць.

На жаль, пры вырашэньні пытаньня, ці скарыстаць у поўнай меры з гэтага права, ці паслаць толькі аднаго дэлегата, нашы вяскоўцы ахватней затрымліваюцца на тым, каб слаць **толькі аднаго**: усё роўна, раскажа, што там дзеялася, дый там зробіць справаздачу аб сваім каапэратыве, — за тое **менш грошы выйдзе**!

Ой, людзі, людзі! Гэтая ашчаднасьць тут ня толькі ня выходзе на дабро вам, але можа загубіць усю справу народнае каапэрацыі, ды адрыгнецца вам пасьля ў некалькі разоў...

На гэтым імкненьні да ашчаднасьці, хоць тут яна зусім не на мейсцы, на апошнім зьезьдзе правялі сваю кампанію польскія палітыканы, якія стараюцца абярнуць справу народнае самапомачы ў новы спосаб апалячываньня беларусаў. Як-жа гэта?—А вось як.

Сябры Управы — палякі перад зьездам вялі агітацыю сярод вяскоўцаў, каб не насылалі больш, чым па адным дэлегаце. Тлумачылі гэта іменна патрэбай зьберагчы тыя грошы, якія прыйшлосябы аддаць, пасылаючы 2—3 паўнамоцнікаў. І нашы даверчывыя беларусы, паверыўшы гэтым тлумачэньням дый без таго шкадуючы грамадзкіх грошы, ехалі ў Вільню ў адзіночку.—Але тыя самыя людзі, якія агітавалі за гэта **сярод беларусаў**,— у Вільні, дзе каапэратывы пераважна **польскія**, адначасна казалі нешта другое: яны клікалі тут усіх, каб дэлегавалі чым больш паўнамоцнікаў, ды каб гэтак узмацавалі на зьезьдзе **польскую сілу.**

Вынік гэтае „падвойнае бухгальтэрыі“ нам вядомы: на выбарах Управы **палякі пераважылі** і, хаця перш умовіліся даць мейсца ў Управе аднаму беларусу, ды пры галасаваньні **закідалі чарнякамі ўсіх беларускіх кандыдатаў і гэтак захапілі Саюз у свае рукі!**

І цяпер беларускія каапэратары, шкадаваўшыя грошы на пасылку больш дэлегатаў у Вільню, сваімі адлічкамі ў Саюз утрымліваюць **польскую Управу**, якая падае Саюзу нацыянальна поль-

# Заграніцай.

## Выбары прэзыдэнта у Амэрыцы.

Адбыліся выбары выбаршчыкаў ад штатаў дзеля галасаваньня на прэзыдэнта.

Вынікі выбараў, паводле газэтных вестак, **забясьпечываюць прэзыдэнтуру Куліджу**.

### Новы ўрад у Англіі.

Урад Мак-Дональда падаўся ў адстаўку.

Кароль адстаўку прыняў і даручыў утварэньне новага ўраду Бальдвіну, лідэру кансэрватыўнае партыі, папярэдніку Мак-Дональда на становішчы прэм'ера.

### Выбары ў самаўрады ў Англіі.

На новых выбарах у самаўрады кансэрватары атрымалі большасьць. Аднак-жа і работніцкая партыя здабыла 20 новых мейсц.

Лібэралы страцілі 24 мандаты — на карысьць абодвых праціўнікаў.

### Замах на гішпанскага дыктатара.

На гішпанскага дыктатара ген. Прымо-де-Рывэра зрабіў замах адзін з афіцэраў, абражаны генаралам. Адна куля папала ў плячо. Па прыказу генарала зараз-жа сабраўся ваенны суд, які тут-жа засудзіў афіцэра на расстрэл.

### 7-ыя ўгодкі ССРР.

Камуністычная партыя выпусьціла адозву—з прычыны блізкага сьвяткаваньня 7-ых угодкаў абвешчаньня Радавых Рэспублік. У адозве ёсьць гэткія лёзунгі: „Сусьветная буржуазія баіцца толькі сілы. Дык умацоўвайце сваю сілу, работнікі і сяляне! Будуйце, папраўляйце, любіце дзіця рэвалюцыі—чырвоную армію і чырвоны флёт“.

### Рахунак Антаньце — за інтэрвэнцыю ў Расеі.

У сувязі з француска-радавымі перагаворамі — у адказ на прэтэнсіі заходніх крэдытараў царскай Расеі — радавы ўрад мае з свайго боку прадставіць рахунак за страты, зробленыя Расеі ад аружнай інтэрвэнцыі Антанты. Усяго аблічана стратаў на 32 мільярды залат. рублёў.

Апрача таго, мае быць зроблены асобны рахунак за расейскі флёт, захоплены Антантай, за вывезеную ёй дзяржаўную маемасьць Расеі і г. д.

### У расейскім пасольстве ў Парыжу.

Былы расейскі пасол у Парыжу (ад ураду Керэнскага) Маклаков — на жаданьне францускага ўраду — пакінуў гмах расейскага пасольства, забраўшы з сабой архіў і больш`цэныя рэчы. Гмах зоймець радавы пасол.

### Патрыарх Ціхан паздаравеў.

Паводле вестак з Масквы, здароўе патрыарха Ціхана гэтак папраўлілася, што ён пачаў езьдзіць па царквох у Маскве і на правінцыі, адпраўляючы службу.

### Водгукі сусьветнае вайны.

У Лётарынгіі французы арыштавалі нямецкага генарала, якога перад тым францускі суд засудзіў завочна на 5 гадоў турмы, вінавацючы яго ў прысваеньні чужых рэчаў у часе акупацыі часьці Францыі.

### „Малая Антанта“ кабет.

Гэтак названы кангрэс (зьезд) кабет краёў Малай Антанты, Польшчы і Грэцыі, які сабраўся ў Белградзе. Зьезд прыняў рэзалюцыю, скіраваную да Лігі Народаў, урадаў і парлямантаў усіх дзяржаў, якія належаць да Лігі, дамагаючыся, каб кабеты ўсюды мелі аднолькавыя з мужчынамі правы.

### Фабрыка фальшывых пашпартоў у Букарэшце.

У Букарэшце паліцыя выкрыла фабрыку фальшывых пашпартоў, якая працавала ў шырокім маштабе. Арыштаваны... сэкрэтар міністра ўнутр. спраў.

### Ліквідацыя барацьбы ў Кітаю.

З Тсян-Тсіну паказуюць, што весткі аб узнаўленьні барацьбы генаралам Пэй-Фу — нязгодны з праўдай. Пэй-Фу і Фэны-Ю-Ксяны зрабілі заміраньне, спынілі змаганьне і пачалі перагаворы аб акавчальнай ліквідацыі хатняе вайны.

**Пішыце ў газэту аб усім, што у вас дзеецца: аб гмінных парадках, аб адносінах начальства, аб школах і навуцы, дый аб усякіх выпадках у жыцьці вашае ваколіцы. Пішыце коратка, але поўна і ясна, паказываючы акуратна: што, дзе, калі і кім зроблена прозьвішчы і адрасы пакрыўджаных і крыўдзіцеляў. Канешне падпісывайце і свае імя—толькі для ведама Рэдакцыі!**

# Аб чым пішуць.

### Яшчэ аб „грамадзянскай“ шулерні.

З лёгкае рукі часопісі „Jutro“, якая першая адважалася паказаць, чым запраўды зьяўляецца так-званая „беларуская“ полёнофільская партыя ў Заходняй Беларусі і каму пан прэм'ер Грабскі так неасьцярожна цісьнуў „шляхотныя“ рукі, — польская прэса выкрывае новыя падробнасьці з жыцьця „Грамадзянскага Сабраньня“ ў Вільні і адносінаў да яго тутэйшае паліцыі.

Вось, што піша нейкі „St. T.“ ў газэце „Echo Warszawskie“:

> У Вільні ад раду месяцаў публічная апінія, далікатна кажучы, парушана тым, што такі Беларускі Грамадзянскі Клюб істнуе і кожын дзень зьбірае сотні людзей.
>
> Аднак, няхай ніхто не падумае, што тамака зыходзяцца людзі — ў першы чарод беларусы—дзеля нейкага культурнага дзела, тарыскага ці спартовага. О, не! Бо-ж трудна залічыць да гэткага дзела масавую ігру ў лото, газардовую ігру ў карты і т. п. Гэтак у гэтым клюбе праігрываюцца дзесяткамі чыноўнікі, афіцэры, купцы і прамыслоўцы, студэнты і вучыцялі,—ну, і г. д.
>
> Гаспадаром клюбу зьяўляецца нейкі п. Валэйша. Хто такі гэны пан — ня ведаю. Аўтар артыкулу ў часопісі „Jutro“ кажа, што гэта „тып, каторы служыў спачатку беларусам, пасьля бальшавікам, літвінам, а цяпер палякам... Валэйша быў у свой час (1922 г.) арыштаваны за процідзяржаўную дзейнасьць, а пасьля выпушчаны дэфэнзываў за некаторыя зробленыя ім услугі“.
>
> Тут істнуе пагляд, што беларускі клюб патрэбен гэнаму пану **дзеля яго полёнофільскай працы** сярод сягоньняшніх яго беларускіх землякоў.
>
> Аднак, паскольку мае ведамасьці—точныя, гэны пан лішне скампрамітаваны ў беларускіх ідэйных сфэрах, каб яму давяралі,— а тыя, з кім ён мае бліжэйшыя зносіны, належаць да таго-ж, як сам, гатунку, дык **не прадстаўлюць таго паважнага і цэннага элемэнту, на здабыцьці якога магло-б каму-хоч залежаць.**
>
> А тым часам „Беларускае Грамадзянскае Сабраньне“— **гэта правакацыя чэснае віленскае апініі.** Істнаваньне яго падрывае славу некаторых, з іншага боку, шанаваных прадстаўнікоў тутэйшае **арганізацыі публічнае бясьпечнасьці.**
>
> На фоне адносінаў гэтых паноў да клюбу ходзяць розныя чуткі і плёткі, падаюцца нават рапарты вышэйшай уладзе, вынікам чаго быў **спэцыяльны прыезд у Вільню на сьледзтва падкамісара галоўнае каманды дзяржаўнае паліцыі.**
>
> Хаця не ўстаноўлена нічыя канкрэтная віна, але такія адносіны вытвараюць бражэньне і развал. Вынікам сьледзтва гэнага надкамісара зьяўляецца **перанос аднаго падкамісара паліцыі** з становішча, на якім ён мог беспасярэдне стыкацца з клюбам, на іншае становішча—болей-меней нэўтральнае.

Аўтар стацьці ўсім гэтым глыбока абураны і кліча ўладу да спыненьня ўсяго гэнага бруду:

> Разумею, што могуць тут мець вагу прычыны палітычнага характару: афіцыяльна зачыніць Беларускі Грамадзянскі Клюб—гэта выклікала-бы крыкі ў рознага роду Тарашкевічаў, Луцкевічаў, Станкевічаў і т. п. беларускіх дзеячоў, зрабіла-бы ўражаньне, што польскі ўрад уціскае нацыянальныя меншасьці! Так, але ня ў гэтым прыпадку. **Бо паны Валэйшы, Паўлюкевічы, Салаўі — гэта ня ідэйныя дзеячы**, а, наадварот, даволі скампраміатаваны ў вачох павадыроў беларускага руху; з другога боку, можна і не карыстацца такімі радыкальнымі спосабамі. Забараніце ў беларускім клюбе газардовую ігру ў лото і ў карты, а я ручаюся, што адным махам ачысьціце гэты сягоньняшні „прытон“.
>
> Падводзячы ітог, можна сьмела сказаць: **адабраньне права газардовае ігры ў беларускім клюбе ў Вільні ачысьціць атмасфэру, крэпка згушчоную парамі бруду і згнілізны.**

Зусім справядліва: бо-ж тады, як ня будзе грошы да падзелу, уся гэная — кажучы славамі „Jutra“—кумпанія „z-pod ciemnej gwiazdy“, якая складае „полёнофільскую партыю“, разьляціцца ў-ва ўсе бакі, шукаючы іншага, ня менш „чэснага“ заробку....

Ня верыцца толькі, каб адміністрацыйная ўлада гэта зрабіла — ведама, з увагі на „спэцыяльныя“ ўслугі „грамадзянскае“ шулерні, але зусім ня дзеля страху перад крыкам Тарашкевічаў, Луцкевічаў, Станкевічаў і іншых беларускіх дзеячоў: вось-жа не баяліся паны інспэктары пазачыняць апошнія беларускія школы ў Вялейшчыне, не баіцца ўлада і канфіскаваць ды зачыняць беларускія ідэйныя часопісі!

# ХРОНІКА.

### НОВАЯ КАНФІСКАЦЫЯ.

**№ 17 „Сялянскае Праўды“ з 7 лістапада сканфіскаваны камісарам ураду на м. Вільню за артыкул „Нячуванае надужыцьце“.**

**У справе пасла Барана.** Як ведама, беларускі пасол, Сяргей Баран, знаходзіцца ў польскім вастрозе, засуджаны ў справе „45“ (на беларускім працэсе).

Арышт гэтага выдатнага беларускага дзеяча знайшоў адгалосак і ў Менску, дзе беларускае грамадзянства распачала крокі перад радавым урадам, каб, пры найбліжэйшым абмене палітычных вязьняў з Польшчай, ССРР зажадаў-бы выдачы Барана. У Вільню нават былі прыйшлі весткі з Менску, што імя Барана, будзе стаяць чуць-што не на першым месцы сьпісу асоб, падлягаючых звальненьню ў ССРР з польскіх вастрогаў.

Цяпер нас інфармуюць, што, ня гледзячы на ўсе абяцанкі Масквы, у прысланым у Варшаву сьпісе імя Барана ня толькі не стаіць на адным з першых месц, але і зусім ня зьмешчана.

Як відаць, усе ранейшыя завярэньні аказаліся „кепскім жартам“!

**З літэратурнае нівы.** Жыдоўская газэта „Тог“ у № 251 з 6 кастрычніка надрукавала пераклад вядомага мастацкага апавяданьня нашага выдатнага пісьменьніка Зьмітрака Бядулі пад загалоўкам „Малітва малога Габрусіка“.

Пераклад зрабіў жыдоўскі літэратар П. Кон, які абяцуе пасьвяціць нашаму пісьменьніку спэцыяльны крытычны артыкул.

Як ведама, Зьмітрок Бядуля—жыдоўскага паходжаньня, і гэта асабліва цікава для жыдоўскага грамадзянства.

**Да замаху пад Турмонтам.** Паводле вестак польскіх газэт, сьледзтва ў справе замаху на цягнік пад Турмонтам не зьяўляецца актам замежнае дывэрсыйнае работы, а зроблены тутэйшымі людзьмі. „Вінавайцы“ (?) арыштаваны (арыштоўвуюць у нас некага заўсёды!) і аддадзены сьледчаму судзьдзі ў Браславе.

**Ізноў замест паліцыі—войска.** 3 і 4 лістапада на ўсходняй граніцы ў Вялейскім і Дунілавіцкім паветах месца паліцыі заняло войска. Начальнік брыгады, палк. Рымша, выехаў у Вялейку, дзе будзе стала жыць і ўрадаваць.

У Вільню прыбываюць атрады ўзятае з граніцы паліцыі, якія згэтуль рассылаюцца на новыя месцы службы, ці звальняюцца

**„Крэсавыя героі“.** „Słowo“ паказуе, што начальнік экспозытуры сьледчага аддзелу паліцыі на м. Вільню адсунуў ад выпаўненьня абавязкаў двух сваіх **заступнікаў** (ого!): падкамісара Заборовскага і аспіранта Кеджыньскага. Аб іх вядзецца сьледзтва ў справе праступленьняў, учыненых у часе ад 1920 да 1923 года.

Як відаць, у працягу трох гадоў трымалі ў сваіх руках лёс тысячаў людзей—крымінальныя праступнікі. Тыповы „крэсавы“ абразок!

Абодва „крэсавыя героі“ арыштаваны і пасаджаны ў Лукішскі вастрог, дзе, як ведама, адбываюць кару іх „калегі“ з вялейскае паліцыі—сябры бандыцкае арганізацыі аспіранта Котарбіньскага.

**У друкароў.** Узнавіў сваю дзейнасьць клясавы саюз работнікаў друкароў. Выбраны новы ўрад з 7 асоб.

**У літвіноў.** 2 лістапада адбыўся агульны сход сяброў Літоўскага Камітэту помачы пацярпеўшым ад вайны. На сходзе былі адзначаныя численыя перашкоды з боку ўлады ў працы Камітэту.

**Сярод мусульман.** У нядзелю, 2 лістапада, у імама пры мячэці адбыўся сход віленскіх мусульман, на якім, паміж іншым, пастаноўлена склікаць у Вільні мусульманскі зьезд з усяе Польшчы.

Як падае „Kur. Wil.“, у Вільні жыве каля 200 мусульманскіх сямей.

**„На добрую памяць“.** У сувязі з вывадам паліцыі з пагранічных ваколіц у Вялейшчыне (ды пэўне і ў другіх паветах!) стаіць лямант крамнікаў. Яны ўвесь час давалі ўсе паліцыянтам напавер — бяз грошы, бо й як ня даць такой важнай уладзе! А паліцыянты, выяжджаючы, і ня думалі разрахавацца за свае даўгі, пакінуўшы іх „крэсаваму“ насяленьню „на добрую памяць!“.

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грам. Рэдактар!*

З прычыны далейшае зьвягі і паўтараньня рознае брахні на мяне на страніцах валэйшаўскіх органаў „Абуха“ і „Грамадзянскага Голасу“, каб раз палажыць канец ілжывым гутаркам аб маіх разрахунках з „Грамадз. Сабраньнем“, прашу не адмовіць зьмясьціць у „Сял. Праўдзе“ дакумэнты аб уступцы мной „Сабраньню“ часьці маей былой кватэры і здачы яму-ж у арэнду бібліатэкі:

I. Радзе Старшын Беларускага Грамадзянскага Сабраньня. У адказ на Вашу прапазіцыю, пераказаную мне Панам Прэзэсам Рады Старшын, гэтым паведамляю, што згаджаюся аддаць да ужытку Сабраньня, як сублякатара, часьціну кватэры маей пры Віленскай вуліцы дом № 33, пам. № 1, апрача двух пакояў, якія я пакідаю за сабою. За карыстаньне з сказанага памяшчэньня, разам з маімі мэблямі, якія тамака знаходзяцца і опісь якіх павінна быць неадкладна зроблена, Беларускае Грамадзянскае Сабраньне павінна узяць на сябе аплату уласьніку дому усяе сумы, якая будзе выпадаць за арэнду усяе мае кватэры.

Калі-б Беларускае Грамадзянскае Сабраньне захацела зрабіць арэндную умову на маю кватэру беспасярэдна з уласьнікам дому на свае уласнае імя, я згаджаюся даць на гэта сваю згоду, з тэй умовай, што буду мець права у кожын мамэнт забраць адтуль усе свае мэблі і бібліатэку, аддадзеную

Сабраньню дзеля часовага карыстаньня сябрамі Сабраньня. Вільня, 24 мая 1923 году. (—) *А. Луцкевіч.*

II. Радзе Старшын Беларускага Грамадзянскага Сабраньня. У адказ на прапазіцыю, зробленую мне на словах п. Прэзэсам Рады Старшын, гэтым паведамляю, што згаджаюся аддаць у арэнду Беларускаму Грамадзянскаму Сабраньню маю бібліатэку, якая знаходзіцца у памяшчэньні маім пры Віленскай вуліцы, дом № 33 пам. № 1, лічучы ад сягоньняшняга дня на паугога, на ніжэйпісаных варунках:

1. Карыстацца кнігамі могуць, выключна, сябры Сабраньня, якое прыймае на сябе абавязак компэнсацыі мяне за усе прапаушыя кнігі па рынковай іх цане.

2. Кірауніком бібліатэкі можа быць толькі тая асоба, на каторую будзе мною дадзена згода.

3. За першае паугода Сабраньне выплачывае мне восем мільенау польскіх марак, у якую-то суму залічаюцца унесеныя мне сягоньня, як задатак, чатыры мільены польскіх марак, а другія чатыры мільны павінны быць заплочаны мне не пазьней, як 15 чэрвеня 1923 года.

4. Аб варунках арэнды Сабраньнем маей бібліатэкі на далейшы час па сканчэньні паугода мае быць зроблена новая умова не пазьней, як за два тыдні да канца арэнднага часу. Вільня, 5 чэрвеня 1923 г. (—) *А.. Луцкевіч.*

На першым дакумэнце зроблены гэткі надпіс 20 ліпня 1923 году:

Ад вышэй пісанага Грамадзянскае Сабраньня, з прычыны немагчымасьці звольніць памешканьне ад рэквізіцыі, адмауляецца адначасна з ліквідацыяй умовы аб арэндзе бібліатэкі Грамадзяніна Луцкевіча з Сабраньнем. 20./VII. 1923 г. *Сэкрэтар і Гаспадар, Старшыня П. Жаурыд.*

З гэтага ясна відаць, што аб факце рэквізіцыі маей кватэры Сабраньне **ведала**; больш таго: „сам“ Валэйша ўзяў на сябе ўсе клапоты ў справе зьняцьця рэквізіцыі, кажучы, што Дэлегат Ураду п. Роман яму ў гэтым не адмовіць...

А вось квіты аб зварсце мной Сабраньню грошы:

1. З прычыны немагчымасьці карыстацца Бібліатэкай, Беларускім Грамадзянскім Сабраньнем атрымана ад п. А. Луцкевіча у лік звароту заплачанае арэнды два мільены марак. 13./VII. 1923 г.—*Прадседацель Валэйша, Сэкрэтар П. Жаурыд.*

2. У лік звароту грошай, атрыманых гр. Луцкевічам ад Беларускага Грамадзянскага Сабраньня, як плату за арэнду бібліатэкі яго пры Віленскай вул. № 33, пам. № 1. атрымана Грамадзянскім Сабраньнем адзін мільен польск. марак (1.000.000). *Гаспадар Сабраньня П. Жаурыд.*

3. У лік звароту арэнды за бібліатэку на Віленскай вул. № 33, пам. 1, атрымана ад п. А. Луцкевіча два мільены пол. марак—31./VII 1923 г.—*Старшыня Беларускага Грамадзянскага Сабраньня Валэйша.*

На іншую брахню, якую Валэйша пазваляе сабе ўкладаць у вусны грам. Жаўрыда, каторы цяпер **жыве ў Менску і запярэчыць ня можа**, лічу лішнім адказываць.

З пашанай *Ант. Луцкевіч.*

Вільня,
1./XI. 1924 г.

# Карэспандэнцыі.

## Барацьба за беларускую школу.

*(З Лідзкага пав.).*

Грамадзяне вёсак: Альхоўкі, Пудзіна і Васілевічы, Дакудаўскае гміны, зрабілі прыгаворы аб адчыненьні беларускіх школ. Саставілі, падпісалі; асталося толькі зацьвярдзіць. Але камандант Дакудаўскае паліцыі, пан Жэрко, загадаў паліцыянту Аляксандравіку **адабраць прыгаворы**, а той і „рад старацца“.

І вось, прыйшоўшы з нейкімі 2 асобамі (ма' быць шпігамі, бо былі апрануты ў цывільныя вопраткі) ў в. Альхоўку, прыказалі солтысу Анацьку аддаць прыгавар, што солтыс і зрабіў.

Прытым **пагражалі за адчыненьне беларускае школы трохмесячным арыштам.**

Гэтак-жа сама адабралі прыгаворы ад солтыса Стэфановіча ў в. Васілевічах і ад Пудзінскага солтыса Мацеля, ды ім таксама пагражалі вастрогам.

16 кастрычніка вучыцелька польскае школы ў м-ку Дакудаве сабрала сход. Сход гэты быў у памешканьні школы, на якім вучыцелька, пані Білусоўна жалілася грамадзянам, што не хапае ў школе лавак і другіх школьных прыладаў, ды што? Дакудаўская гміна, павятовы соймік і школьны інспэктар Лідзкага пав. катэгарычна адмаўляюцца даць дапамогу для нашай школы. Прыгэтым вучыцелька прасіла грамадзян пайсьці насустрэч польскай школе. Грамадзяне згадзіліся, але з свайго боку **зажадалі беларускай школы**, п. Білусоўна адказала: „я заяўляла Лідзкаму школьнаму інспэктару аб тым, што ў нас вядзецца агітацыя за беларускую школу, але пан інспэктар адказаў, што ў Дакудаве адчыніць беларускай школы ня можа, бо ў яго няма яшчэ закону“. Хоць і пастанавілі на гэтым сабраньні адчыніць у Дакудаве беларускую школу, але прыгавору ня пісалі, бо пішы ня пішы, а ўсё роўна паліцыя адбярэ.

Я пытаюся: ці можна адчыняць беларускія школы?

**Антось Бедны.**

**Ад Рэдакцыі**: дамагацца беларускіх школ можна і трэба. На гэта мы маем права, паводле, так-званага „языковага“ ўставу, які прайшоў праз Сойм і Сэнат і абвешчаны Прэзыдэнтам дзеля выпаўненьня.

На жаль закон гэты астаецца дагэтуль толькі „на языку“. Дык тым балей трэба нам дабівацца свайго, што нам па праву належыцца!

## З падвіленскае вёскі.

У вёсцы Каменны Лог, Шумскай гміны, Віленскага павету, а гадзіне 8 рана, 30 кастрычніка згарэла лазьня грамадзяніна Яна Гушчы. Не бяда, каб адна лазьня, але пры гэтым абгарэлі 7 працаўніц, якія ў гэны час працавалі над лёнам.

У гэнай вёсцы бабы сушаць лён у лазьні: там яго і мнуць талакой. Працаваць сабралося дванаццаць работніц. Агонь даў такі выбух, што не змаглі ўцячы. Пагарэла адзежа працаўніц.

Найбольш пацярпелі Ядвіга Пракаповіч і Лісоўская. Пацярпеўшых адвязьлі да эпідэмічнага шпіталю ў Шумску, дзе ім была аказана помач.

Прычына пажару — неасьцярожнасьць.

**Трылісьцьнік.**

## Пужаная варона куста баіцца.

*(Паставы, Дунілавіцкага павету).*

Вельмі запуджаны нашы паны бандытамі, дык і катоў баяцца.

З 13 на 14 кастрычніка на нашага вэтэрынарнага доктара напалі „бандыты“, але толькі на сталяваньне, а ня ўхату, дык і бараніцца было добра. Адчыніўшы вакно, доктар пачаў крычаць і страляць.

Праяжджаючы ў гэты час пачтар Чарэнка, пачуўшы крык, пасьпяшыў на помач.

Пан Цараградзкі загадаў яму лезьці на сталяваньне, але пачтару жыцьцё не надаела, і ён пабег у паліцыю. Прышла паліцыя, акружыла хату, а ў хаце?.. ціха спакойна. „Разбудзілі“ пана Цараградзкага і пытаюцца, што і як? А той кажа: „купіў новы рэвальвэр і прабаваў, ці добра страляе“. А бедны пачтар чуць па карку не дастаў за помач.

А калі на заўтра разабраліся, дык выясьнілася, што каты забраліся на сталяваньне, а чаго?... хто іх ведае. Мо' мяса захацелі пакаштаваць, а мо' палячыцца захацелі, але, ня хочучы турбаваць паначы пана доктара, думалі пераспаць на столі... **Сівая сярмяга.**

## Барацьба сялян з маральным брудам.

*(Пружаны, гміна Шэні).*

Вясною 1923 г. войт Шэнеўскай гміны, Антон Шышка, за грамадзянскія грошы, сабраныя з людзей, як гмінны падатак, купіў сабе 5 маргоў сенажаці. Рэвізыйная камісія гміннае рады ўлавіла на гэтым „панскага“ войта і пакіравала справу да пружанскага старасты. Стараста зьмясьціў яго з пасады войта і абяцаў, як найхутчэй, папоўніць касу, але адначасна зацьвярдзіў яго-ж паслом да павятовага сойміку!

Аднак-жа справа была аддана да горадзенскага пракурора, і 11/III гэтага году „панскі“ войт Шышка быў засуджаны на 3 месяцы турмы, і толькі па амнэстыі кара ня была выпаўнена.

Мусіць дужа вялікая дружба злучае гэтага выкідыша вёскі з панамі-абшарнікамі, калі сам пружанскі п. Стараста зажадаў бачыць яго зноў войтам, не зьвярнуўшы ўвагі на тое, што горадзенскі пракурор прыслаў да гміны гэтакага зьместу бумагу:

PROKURATOR
przy
Sądzie Okręgowym
w Grodnie
dnia 24 maja 1924 r.
№ w 127/24 r.

Do ksiąg ludności.

Niniejszem komunikue, iż mieszk. wsi i gminy Szenie, powiatu Prużańskiego, Antoni Szyszko, syn Stefana, lat 42, wyrokiem Sądu Okręgowego w Grodnie z dnia 11 marca 1924 roku na mocy art. 578 cz. I i III i 53 K. K. skazany został na trzy miesiące więzienia, lecz na mocy amnestji kara ta została mu darowana w całości.

І панскі прысьпешнік Шышка, хаця-ж і ў „zawieszeniu“, зноў войтам езьдзіць па вёсках і зьбірае падаткі. Гмінная рада 21 верасьня на сабраньні сваім пастанавіла, на падставе пракурорскага пісьма, трэбаваць выдаленьня нячэснага войта, калі-ж гэта ня будзе споўнена, дык лічыць усю раду распушчанай. Праўда, каму хочацца браць на сябе адказнасьць за крыміналіста?

Увесь народ у гміне кажа, што гмінных падаткаў больш таму войту ня будзе плаціць, бо ён украдзе сабе на маёнтак,—той панскі войт, каторы за часаў нямецкай акупацыі быў старастай над цэлым раёнам і прыдбаў сабе дужа благую славу, бо лавіў ваеннапалонных і перадаваў нямецкай вайсковай уладзе, прымушаў сялян, асабліва дзяўчат, служыць яму паншчыну пад страхам высылкі ў Нямеччыну на работу. Яму нясьлі падаркі, каб ня выдаў немцам, хто меў сьвіньню, або курыцу. Падабалася яму жывёла ў мужыка: едзе купляць і дае цану, якую сам хоча, а калі гаспадар спрачаецца, то пагражаў заявіць нямецкаму каманданту, каторы дарма забярэ! Рукі і ногі цалавалі яму сяляне пры нямецкай уладзе, каб толькі адратаваць свае дастаткі і жыцьцё.

Цікава прасачыць псыхалёгію цёмнае сялянскае масы і яснавяльможную панскую. Тады, як мужыкі з болем у сэрцы адчуваюць на сваіх грамадзкіх справах зьдзекі і няпраўду, п. Стараста ня цураецца гэтакае непашаны свайго „заходнякультурнага“ панскага гонару, падбіраючы ўрадоўцаў спасярод угалоўных адпадкаў сельскае грамады.

Многа дужа ганаровых паноў мае Пружанскі павет, а ні адзін, нават і той, што ў Шэнеўскай Гміннай Радзе, не абурыўся на зладзейства, з якім распачала барацьбу такая раней паслушная гмінная рада. А ўсе-ж яны засядаюць у Пружанскім сойміку і добра ведаюць, што той Шышка, асуджаны ў турму, ня толькі шэнеўскі войт, але іх „калега“ — сябра павятовага сойміку.

Эх, паночкі!.. кіньце йграць у „заходнюю культуру!“ Надта-ж ужо дзяшовы ваш гонар і выхаваньне! **Селянін.**

**Ад Рэдакцыі**: Мы шчыра вітаем гэту барацьбу нашых сялян з маральным брудам, бачучы ў гэтым знак, што няволя ня здолела забіць ў нашым народзе маральнае пачуцьцё, так рэдка спатыканае цяпер сярод „культурных“ станаў!

## Вось, як у нас „добра“ жывецца!

*(Радашкоўская гміна, Вялейскага пав.).*

Няма абароны ад гэтай паншчыны. Досьць ужо гэтыя падаткі не даюць жыць! Не заплаціў адных, як табе пяруном солтыс нясе другую паперку на другія. Страх бярэ ад гэных падаткаў. Ня ведаеш, за што плаціш, сколькі ў год і каму? А зарабіць нямя дзе. Хоць з скуры вылазь, а паншчыну адбывай акуратна і заўсёды „nätych-miast“. На панскія бязмежныя абшары йдзі, праў дарогі; то капай равы, то карчуй пні ад сосен, якія пан даўна ўжо соладка пражыў дзесь у Варшаве, а то і заграніцай. А ты, „białoruski chamie“,— мусіш на яго бруха працаваць, не адгінаючы сьпіны.

Вось, прыклад, 17 гэтага кастрычніка пан войт Радашкоўскае гм. выгнаў паліцыяй усю гміну „**правіць**“ абшарніцы Янушэўскай лясную дарогу. Паслухайце, добрыя людзі. Сьмех бярэ і злосьць. У пярод нас ганялі капаць равы і высака насыпаць дарогу, тады вазілі коньмі жвір, а цяпер ізноў выгналі разрабляць, значыцца, згортаваць тую насыпаную зямлю з дарогі ізноў у равы. А гэта толькі дзеля таго, як кажуць: будзе на днях ехаць пан ваявода, а пясок насыпаны на дарогу яшчэ ня ўлёгся, ня ўбіўся (ведама, сухая восень), дык ваяводзкаму „яго міласьці“ аўтамабілю будзе цяжка, а дзеля гэтага „беларускае хам'ё“ нашай гміны без работы сядзець не павінна. Трэба з пустога ў парожняе перасыпаць. Капай, насыпай, вазі і ізноў згортавай у равы пясок, а як праедзе пан ваявода, ізноў пагоняць насыпаць. Адным словам, адбываем „муштры“ на панскай зямлі і на панскую карысьць.

Мала гэтых дарожных муштраў, а яшчэ-ж і ад дзесяціны трэба плаціць нейкія дарожныя падаткі. Ды і цяпер па вёсках ходзяць нейкія замершчыкі і мераць будынак. Мерыць і ня пытаецца, чыё мерае. Яшчэ з нейкім гонарам. Усё роўна, як сваё, ці, не мяркуючы, ён, гэты замершчык, панарабляў нашаму селяніну гэтых хлеўчыкаў і прыхлеўчыкаў, а мера-ж так шчыльна, што і вада не пацячэ. Вядома, і гэтае мераньне для падаткаў, бо на якое-ж ліха ён бы мерыў? Цяпер і скрабі патыліцу і думай: дзе ж гэта зарабіць грошай на гэтыя дані, ці-ж вясьці на торг апошнюю кароўку? але-ж тады дзеткі паўміраюць з голаду. А павядзі ў нас—у Радашковічы карову, ці павязі якое парасё на торг, дык цябе ў вуліцы пярэйме нейкі „вышыбайла“ магістрацкі з цэтлікамі і зьдзярэ 4 злоты. Прадаў, ці не прадаў, а няма грошаў—хоць ты кончыся, падавай! Вось, як у нас добра жывецца. **Вароновіч.**



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік.**



Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.